ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXII Нр. 314 Нью Ёрк - лістапад-сьнежань — 1983 — Nov.-Dec. — New York Vol. XXXII № 314

## ПРАМОВА ГУРЫНОВІЧА Ў ААН І Ў САВЕЦКІМ ДРУКУ

Савецкі друк хавае ад народу некаторыя вельмі важныя выказваньні сваіх дэлегатаў на міжнародных форумах аб зброі ды аб ваеннай заангажаванасьці Савецкага Саюзу. Гэта можна навочна прасачыць на прыкладзе з прамоваю міністра замежных справаў Беларускае ССР Анатоля Гурыновіча на сёлетняй 38-й Генэральнай Асамблеі ААН, параўнаўшы, што Гурыновіч сказаў у Нью Ёрку, з тым, што з гэтага было зьмешчана ў друку савецкае Беларусі.

У Аб'еднаных Нацыях у дзень выступленьня беларускага дэлегата, 7 кастрычніка, быў выданы прэсавы камунікат місіі БССР пры ААН з поўным тэкстам прамовы А. Гурыновіча ў ангельскім перакладзе з зазначэньнем, што гэта — „неафіцыйны пераклад" ды што тэкст трэба зьверыць з прамовай Гурыновіча ў мамэнт, калі ён будзе выступаць.

Мы ня ведаем выпадку, каб былі разыходжаньні паміж тэкстам савецкага выступленьня, паданым загадзя, ды тэкстам, прачытаным у часе выступленьня. Ніякіх разыходжаньняў напэўна ня было й гэтым разам. Але затое якія разыходжаньні паміж тым, што было сказана, і тым, што было выдрукавана ў савецкіх газэтах („Зьвязда", „Советская Белоруссия" ды іншыя з 11-га кастрычніка)! Пра Гурыновічаву прамову паінфармавала Беларускае Тэлеграфнае Агенцтва (БЕЛТА), падаўшы яе ў „пераказе". Але ў Белты выйшаў ня толькі пераказ, але й недаказ, з пропускамі прынцыпова важных заяваў беларускага дэлегата. У белтаўскім пераказе зроблена прынамся пятнаццаць пропускаў бязь ніякае згадкі пра некаторыя кардынальна важныя заявы міністра замежных справаў БССР.

Гэтак, у пераказе Белта чытаем:

„Давайце разьбяромся ў тым, сказаў далей Гурыновіч, што перашкаджае рэалізацыі мірных ініцыятыў".

І адразу-ж далей новы абзац:

„Працаўнікі гэтых ініцыятыў хочуць разгарадзіць Эўропу частаколам амэрыканскіх ракет".

Працаўнікі якіх „ініцыятыў"? Белта гэтага не сказала. Белта выпусьціла цэлы абзац з таго, што сказаў на Генэральнай Асамблеі Гурыновіч (36 машынапісных радкоў у прэсавым камунікаце місіі БССР пры ААН), не патурбаваўшыся пераказаць хоць колькімі сказамі Гурыновічавых словаў. А Гурыновіч сказаў вось што (пераклад з ангельскага перакладу):

„Давайце паглядзем спачатку на Эўропу. Там існуе прыблізны парытэт паміж ваеннымі патэнцыяламі дзьвюх сацыяльных і палітычных сыстэмаў, тымчасам як канцэнтрацыя вайсковых адзінак і ваенных узбраеньняў перавышае сярэднюю сусьветную насычанасьць у 20 разоў.

„Стала імкнучыся ўдасканальніць палажэньне на эўрапейскім кантынэньце і адсунуць пагрозу вайны, Савецкі Саюз прапануе, каб ракеты сярэдняе дальнасьці й тактычныя ядзерныя сыстэмы ў Эўропе былі зьнішчаныя або каб разьмяшчэньне ў Эўропе ўсякіх новых ракетаў сярэдняе дальнасьці было спыненае, а наяўныя сыстэмы былі скарочаныя абодвума бакамі прыблізна на трацiну. Савецкі Саюз прапануе дамовіцца аб аднолькавай колькасьці запускных сыстэмаў (ракетаў і самалётаў) ды ўзбраеньняў на іх. Нарэшце, Савецкі Саюз гатовы — пры тэй умове, што будуць дасягнутыя прыймальныя для абодвых бакоў пагадненьні, якія ўключалі-б адмову Злучаных Штатаў разьмяшчаць новыя ракеты ў Эўропе — скараціць лік сваіх ракетаў сярэдняе дальнасьці ў эўрапейскай частцы Саюзу да ўзроўню, роўнага ліку брытанскіх і французскіх ракет, ды выэлімінаваць усе ракеты, якія мелі-б быць скарочаныя, у тым ліку ракеты СС-20. У выніку гэтага Савецкі Саюз меў-бы ў Эўропе меншы лік ракетаў сярэдняе дальнасьці, чымся ён меў у 1976 годзе, гэта значыцца да таго, як савецкія ракеты былі ўдасканальненыя.

„Савецні Саюз падтрымвае прапановы аб свабодных ад ядзернае зброі зонах у паўночнай Эўропе і на Балканах ды аб зонах 500-600 кілямэтраў ушыркі ў Цэнтральнай Эўропе, што былі-б свабодныя ад тактычнае ядзернае зброі".

BYELORUSSIAN
SOVIET SOCIALIST REPUBLIC
MISSION TO THE UNITED NATIONS
136 EAST 67th STREET NEW YORK N.Y. 10021

PRESS RELEASE

Вось-жа нічога з вышэй прыцытаванага Белта чытачом сваіх газэтаў не падала. Чаму? А таму, відаць, каб чытач „Зьвязды" ці „Сельской газеты", чаго добрага, не пачаў учытвацца ў гэтыя словы пра перашкоды „рэалізацыі мірных ініцыятыў" ды ня прыйшоў да думкі, што Савецкі Саюз, хоць і гаворыць пра „парытэт", фактычна перавышае Захад у ўзброенасьці ракетамі сярэдняе дальнасьці. Гурыновіч-жа гаварыў аб амэрыканскіх ракетах сярэдняе дальнасьці, што **будуць разьмешчаныя,** і аб савецкіх гэткіх-жа ракетах, што **ўжо разьмешчаныя,** ды прызнаўся, што разьмяшчэньне іх пачалося вунь калі — у 1976 годзе. (Дзяржавы НАТА сваю пастанову аб разьмяшчэньні ракетаў сярэдняе дальнасьці на эўрапэйскай тэрыторыі прынялі напрыканцы 1979 г. ды пачалі ў лістападзе сёлета разьмяшчаць іх, выразна ў вадказ на савецкую ініцыятыву).

Не пераказаўшы нічога з вышэй прыведзеных словаў Гурыновіча, Белта падала адно ягоныя словы: „Працаўнікі (мірных) ініцыятыў хочуць разгарадзіць Эўропу частаколам амэрыканскіх ракет". Але фактычна Эўропа ўжо „разгароджаная" — „частаколам" савецкіх ракетаў.

Цяпер Савецкі Саюз, як пра гэта штадня згадваецца ў заходнім друку ў ходзе дэбатаў вакол гэтага пытаньня, мае нацэленых на Заходнюю Эўропу 252 ракеты СС-20, кожная з трыма ядзернымі баягалоўкамі. Дадатковых 108 СС-20 разьмешчаныя ў азіяцкай частцы СССР. Апрача гэтага, Масква мае настаўленых на Эўропу каля 200 ракетаў старэйшага тыпу, г. зв. СС-4. („СС"— дзьве першыя літарары ангельскіх словаў, surface to surface, што значыць — „зямля-зямля" — гэтак завуцца ракеты, што запушчаюцца зь зямлі й б'юць па аб'ектах на зямлі; у савецкай тэрміналёгіі ракеты СС-20 завуць „зямля-зямля-20"; гэта ракеты не абароннага, а нападальнага характару.)

З далейшых пропускаў у Гурыновічавай прамове на сёлетняй Генэральнай Асамблеі ААН чатыры наступныя (другіх 36 машынапісных радкоў, бяручы разам) маюць дачыненьне да ваеннага патэнцыялу Амэрыкі й Савецкага Саюзу. Із словаў Гурыновіча вынікае, што Амэрыка йдзе далёка папердзе Савецкага Саюзу як у колькасьці агульных узбраеньняў, гэтак і ў зьнішчальнасьці ды ў нацэльвальнай дакладнасьці амэрыканскае зброі. Гурыновіч сказаў (а Белта не пераказала):

„Навет небесстароньнія заходнія аналітыкі не знайшлі аніводнага прыкладу ў цэлай паваеннай гісторыі, каб Савецкі Саюз ішоў папердзе ў распрацоўваньні новых відаў зброі ды гэтак змушаў Злучаныя Штаты рабіць контрзахады. Заўсёды было наадварот".

Абстрагуючыся тут ад маральнага аспэкту выперадкаў у галіне ўзбраеньняў паміж Амэрыкай і Савецкім Саюзам, пропуск вышэй пададзенай заявы Гурыновіча, думаецца, Белта зрабіла з гледзішча на псыхалёгію свайго чытача: пашто зварачаць ягоную ўвагу на навукова-тэхнічную перавагу Злучаных Штатаў — гэта будзе падсякаць намаганьні савецкае прапаганды трымаць баёвы дух свайго жыхарства.

Савецкая цэнзура пасьлядоўна трымаецца правіла — не падаваць свайму жыхарству канкрэтных лікаў пра ваенны арсэнал Савецкага Саюзу. У моц гэтага правіла былі прапушчаныя ў пераказе Белта й гэткія Гурыновічавы словы:

„Як заявіў генэрал Ромулё, міністар замежных справаў Філіпінаў, у бягучых агульных дэбатах 26 верасьня, у стратэгічным арсэнале Злучаных Штатаў — каля 9500 ядзерных баягаловак, а ў Савецкага Саюзу — 7700".

Далей у сваёй прамове міністар замежных справаў савецкае Беларусі казаў таксама — прычым, увесь час гаворачы ад імя СССР, а не ад свае рэспублікі — пра глабальную ваенную прысутнасьць Савецкага Саюзу, якую савецкая прапаганда намагаецца прыхоўваць, бо дасягаецца гэта вялікім коштам матар'яльнага й духовага дабрабыту падсавецкіх народаў.

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**А. Будзіч**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Народу Беларускага**

**„Ты — Пётра, і на гэтай скале Я пабудую Царкву Сваю, і брамы пякельныя не адолеюць" (Мц. 16:18).**

**Хрыстос нарадзіўся! Яго слаўце!**

Гэта кліч шчырага водгуку, які выходзіць з вуснаў кожнага з нас, калі душа прагне хрысьціянскае любові ды надзеі на сьветлую будучыню й супакою на зямлі.

Усіх Вас, любыя слугі й вернікі БАПЦ, шчыра вітаю зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыста. Нараджэньне Госпада нашага Ісуса Хрыста — вялікая падзея на зямлі й вялікі дзень, бо нараджэньне Сына Божага дало ўсяму сьвету сілы й магчымасьць разьвіцьця й поступу.

Калі Хрыстос нарадзіўся, сьвятыя ангелы засьпявалі радасную песьню: „Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой сярод людзей добрае волі" (Лк. 2:14). Пра гэты супакой і прымірэньне, праз увесь час, навучае нас нашая сьвятая Царква. Аднак, праз два тысячагодзьдзі Хрыстовя Царква зазнае пякельныя напады, што не даюць супакою. Гэтыя штурмы й напады на Царкву прыймаюць розныя формы, пачынаючы ад рэрэзіі да брутальнага пересьледаваньня верных нашага часу. Гэтак праз увесь час было.

Але Хрыстовая Царква грунтуецца на глыбокіх непарушаных падвалінах. Бо Яна заснаваная на бязьмежным Божым супакою, якога пякельныя сілы ня могуць адолець. Пякельныя сілы могуць нішчыць паверхню, але тая непахісная глыбіня Божага супакою, наданага Хрыстом для прымірэньня людзей, будзе трывалай і дзейнай навекі.

У гэты важны час, калі ўвесь славянскі ўсход рыхтуецца да сьвяткаваньня ўрачыстасьці тысячагодзьдзя прыняцьця Хрыстовае веры, міжвольна льлюцца сьлёзы, бо нашая сьвятая БАПЦ знаходзіцца ў сьвецкіх судох.

Дагэтуль усе нашыя намаганьні, каб спыніць сьвецкія суды, а вырашыць самым не далі належнага выніку. Не ад нас залежаць суды, але мы й надалей будзем старацца, каб асягнуць супакой у БАПЦ. Гэта — наш абавязак, як хрысьціянаў, як тых, што вераць у Хрыста і ў Ягоную навуку, любяць ды выбачаюць адзін аднаму.

У гэтым духу клічу ўсіх выбачыць правіны ўсім тым, хто правініўся. Тады мы будзем здольныя зачаць новае жыцьцё згоды й паразуменьня.

Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос нам сказаў: „Новае прыказаньне даю вам, каб вы мілавалі адзін аднаго, як Я мілаваў, вас, каб вы любілі адзін аднаго. Па гэтым пазнаюць усе, што вы вучні Мае, калі будзеце мець любоў паміж сабою" (Ян. 13:34-35). Дарагія мае, будзем маліцца да Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста, каб паслаў працаўнікам нашым і нам любоў, паразуменьне й здольнасьць выбачэньня адзін аднаму, каб усіх нас пазналі, што мы „вучні" Ягоныя.

Не зважаючы на ўсё, як у мінулым, гэтак і цяпер, мы моцна верым, наш народ адолее накінутыя яму цяжкасьці й абароніць сваю Царкву з Божай помаччу. Ісус Хрыстос, Які нарадзіўся ў сьвет, — запраўдны Сын Божы. Ён зыйшоў на зямлю збавіць сьвет. „Ён-жа для нас, людзей, і для нашага збаўленьня зыйшоў зь неба й прыняў цела ад Духа Сьвятога й Марыі Дзевы ды стаўся чалавекам". Госпад наш Ісус Хрыстос зыйшоў зь неба на зямлю **„для нашага збаўленьня".** „Бо не паслаў Бог Сына Свайго на сьвет, каб судзіць сьвет, але, каб сьвет спасён быў праз Яго" (Ян. 3:17).

У дзень нараджэньня Госпада й Збаўцы нашага Ісуса Хрыста сьвяты ангел абвесьціў нам: „Ня бойцеся, бо вось я прынnetwork вам дабравесьць вялікай радасьці, што будзе ўсім людзям" (Лк. 2:10).

Радуйцеся Сёстры й Браты, бо з намі Бог. Малемся да Яго ўсе разам, каб радасьць калядная напоўніла ўсіх нас.

Няхай ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца і еднасьць Сьвятога Духа будзе з усімі вамі заўсёды — цяпер і ўвесь час і на векі вякоў. Амін.

Дадзена на Каляды,
году Божага 1983-га.

**З ласкі Божае пакорны МІКАЛАЙ,**
**Першы Гіерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Масей Сяднёў**

### РАСПЯТЫ ХРЫСТОС

Трывогай адазвалася сягоньня:
як можа чалавек вякамі
глядзець на распасьцёртыя далоні,
прабітыя наскрозь цьвікамі?

Прэходзіць міма зь лёгкім сэрцам,
А Ён, як быццам нейкі Найміт,
расьпяты на крыжы, праз цэлыя
сталецьці
усё крывавіцца прад намі.

Зірнеце толькі на пакуты
і на цярпеньні ў твары Божым:
цьвікамі да крыжа прыкуты,
ні рук, ні ног Ён вызваліць ня можа.

Як самы вінаваты зь вінаватых,
пакут ня можа збыцца Ён
нязьмерных,
Ён, што лячыў сьляпых і беснаватых,
Ён, што ускрос із мэртвых.

. . . Прыйшоў я да Цябе сягоньня
не дакранацца ран Тваіх рукамі,
а ціха цалаваць Тваe далоні,
прабітыя наскрозь цьвікамі.

Глен Коў, лістапад, 1983.

### ЗЬЕЗД СЬВЯТАРОЎ У РЫМЕ

У Рыме ад 21 па 26 лістапада 1983 г. адбыўся чародны зьезд беларускіх сьвятароў, у якім узялі ўдзел: Біскуп Уладзімер Тарасэвіч і айцы Аляксандар Надсон, Франьцішак Апячонак, Кастусь Маскалік, Рабэрт Тамушанскі. Ня здолеў прыбыць на зьезд а. Адвард Вайцяхоўскі. На зьезьдзе былі разгледжаныя пытаньні душпастырскае дзейнасьці на эміграцыі, была таксама прынятая пастанова весьці далей стараньні, каб на Беларусі быў высьвечаны беларускі каталіцкі біскуп. Летась у гэтай справе быў перададзены рымскай курыі мэмарыял. Сёлета Кардынал Касаролі ў адказе на мэмарыял сказаў, што ў справе высьвячэньня біскупа на Беларусі ёсьць цяжкасьці, але стараньні вядуцца далей з надзеяй на канчальную ўдачу.

Удзельнікі зьезду адзначылі супольнай малітвай 25-годзьдзе душпастырскае працы Мітрафорнага Пратаярэя а. Аляксандра Надсона, што споўнілася 23-га лістапада.

Біскуп Тарасэвіч меў 23 лістапада аўдыенцыю ў Папы Яна Паўла Другога. Уладыка Ўладзімер перадае чытачом „Беларуса" свае найшчырэйшыя пажаданьні Вясёлых Калядных Сьвятаў і шчасьлівага Новага Году.

### СЛУХАЮЦЬ ВАТЫКАНСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ

Як даведваемся з прыватнага ліста, Беларусы Беласточчыны слухаюць беларускія перадачы Ватыканскага радыё. У перадачах гэтых, апрача рэлігійнае тэматыкі, абмяркоўваюцца таксама пытаньні гісторыі Беларусі й сучаснае беларускае культуры.

Добры водгук у слухачоў на Беларусі выклікаюць гутаркі на рэлігійныя тэмы, перадаваныя Беларускай сэкцыяй радыястанцыі „Свабода".

### ГАЛАСАВАНЬНЕ Ў ААН РАЗАМ З ЗША

Амэрыканскі часапіс „Г'юмэн Івэнтс" у нумары зь 10-га верасьня сёлета апублікаваў сьпіс дзяржаваў-сяброў Аб'еднаных Нацыяў з зазначэньнем, колькі разоў кожная зь іх галасавала разам з Амэрыкай на Генэральнай Асамблеі ААН у 1982 годзе. Вось-жа з заходня-эўрапейскіх дзяржаваў найчасьцей галасавала разам з Амэрыкай Вялікабрытанія — 80,1% разоў, Заходняя Нямеччына (76,6%) Бэльгія (74,4) і г. д. З лаціна-амэрыканскіх дзяржаваў — Гватэмаля (49,2), Парагвай (48,9), Уругвай (36,4) і г.д. З азіяцкіх і блізка-ўсходніх — Ізраіль (86,2), Японія (67,2), Турэччына (44,6), і г. д. З афрыканскіх — Марока (31,8), Малявi (31,4), Самалі (30,6) і г.д. З усходня-эўрапейскіх — Вэнгрыя (21,0), Баўгарыя (20,8), СССР (20,6), БССР (20,6), (Украіны чамусьці ў сьпісе няма), Чэхаславаччына (20,5), Усх. Нямеччына (20,1), Румынія (19,4), Югаславія (19,0), Польшча (18,9).

## БЕЛАРУС З АФГАНСКІМІ ПАРТЫЗАНАМІ

Францускі журналіст Ален Шэвалерыя, вярнуўшыся з Афганістану, дзе ён быў сьветкам змаганьня афганскіх партызанаў-муджагэдынаў супраць савецкага акупацыйнага войска, прывёз з сабой магнітафонны запіс інтэрвію з двума былымі савецкімі салдатамі, якія трапілі ў палон да афганскіх паўстанцаў. Адзін з гэтых салдатаў — Азэрбайджанец, другі — 19-гадовы Беларус зь Менску на ймя Ігар (прозьвішча свайго ён не назваў).

Ігар служыў у Афганістане ў гарнізоне нумар 22 ў горадзе Пул-І-Хумры, каля якога і быў узяты ў палон у часе нападу муджагэдынаў на гарнізон. Савецкім салдатам увесь час казалі, што муджагэдыны не бяруць у палон, а, па даўгіх катаваньнях, забіваюць кожнага савецкага байца, які трапляе ў іхныя рукі. Гэта няпраўда, сказаў Ігар. Вось ён прыняў мусульманскую веру і ваюе цяпер супраць савецкіх акупантаў, бо ён пераканаўся, што муджагэдыны — гэта добрыя людзі, якія бароняць сваю бацькаўшчыну супраць захопнікаў. Савецкім-жа салдатам загадваюць забіваць безабароннае цывільнае жыхарства, паліць і бамбіць афганскія гарады й вёскі.

# ІНТЭРВІЮ З НАТАЛЬЛЯЙ АРСЕНЬНЕВАЙ

**Пытаньне „Беларуса":** Калі ў Вас прабудзілася жаданьне пісаць? Пад чыім уплывам, пры якіх абставінах захацелася Вам самой выказвацца творча?

**Адказ:** Я вельмі рана і ўжо на ўсё жыцьцё палюбіла кнігі, палюбіла чытаньне. Як і калі я навучылася чытаць — не памятаю. Але калі мне споўнілася пяць год, а маёй сястры Галіне чатыры (мы абедзьве нарадзіліся ў тым самым месяцы, у верасьні; дата 20 лістапада, што паданая ў маім зборніку, — памылковая), маці выпісала нам дзіцячы часапіс „Золотое Детство", які й быў маім верным сябрам напрацягу раньніх дзіцячых гадоў аж да тае пары, калі я, рыхтуючыся да паступленьня ў гімназію, пазнаёмілася з паэтамі й пісьменьнікамі расейскае літаратуры XIX ст. — Пушкінам, Лермантавам, Някрасавам, Тургеневам, Л. Талстым ды іншымі. Побач зь імі я вельмі рана палюбіла навукова-фантастычныя творы Жуля Вэрна, прыгоды Брэта Гарта, Джэка Лёндана ды шмат, шмат іншых тагачасных пісьменьнікаў. Усе яны, бяз сумлеву, пакінулі сваё ўражаньне на душы дзіцяці. Ці дзіва, што калі я пачала падрастаць, дык мне захацелася пісаць, тым балей, што ў галаве ў мяне было заўсёды поўна розных варыянтаў прачытанага. Але вершы я пачала пісаць шмат пазьней, ужо будучы ў гімназіі.

**П.:** Чым Вы тлумачыце тое, што ў Вашай раньняй творчасьці дамінуе прырода, як канва Вашых пачуцьцяў і настрояў?

**А.:** Над гэтым пытаньнем трэба, хіба, спыніцца крыху даўжэй. Мне здаецца, што хай навонкі я была ад самага маленства зусім нармальнай дзяўчынкай, што й гуляла з захапленьнем у гульні зь сёстрамі й сяброўкамі (нат лазіла зь імі ўлетку па дрэвах!), у запраўднасьці, у душы, я чулася найлепей, калі магла быць сама: думаць недзе ў кутку аб прачытаным, лятуцець, што гэта я — гэраіня прачытаных аповесьцяў. Асабліва блізкой была мне ў гады падрастаньня Пушкінава Тацьцяна (паэма „Аўген Анегін"):

Тиха, печальна, молчалива,
Как лань лесная боязлива,
Она в семье своей родной
Казалась девочкой чужой...

Баязьлівай я хіба ня была, але праз усё маё жыцьцё я была вельмі нясьмелая, як ні намагалася гэтага не паказаць, перамагчы. Яна, гэтая нясьмеласьць, спрычыніла мне ў жыцьці ці мала прыкрасьцяў і шкоды. Азіраючыся назад, я магу цяпер прызнацца, што, каб ня гэтая пракудная рыса майго характару, я магла-б шмат больш зрабіць у жыцьці, асабліва навонкі, стацца, калі ня лепшай, дык шмат больш ведамай сьвету паэткай. А будучы нясьмелай, няпэўнай свайго таленту й магчымасьцяў, я старалася быць як найбольш незаўважанай, вось як я сама пісала ў вершы „Маладым паэтам" пра свае жаданьні: „стаяць над жыцьцём і глядзець на яго, хай наўкола змаганьне...".

Але вярнемся да Вашага пытаньня, „Чаму ў раньняй маёй творчасьці канвой маіх пачуцьцяў і настрояў сталася прырода?" Вось якраз-жа таму, што прырода была сугучная і майму характару і маім адчуваньням. Захопленая хараством, чарамі прыроды, у гадох мае раньняе творчасьці асабліва, я ня чулася ні самотнаю ні сумнаю, ні няпэўнаю. У лесе, у палёх, „пад сінім небам", я была спакойнаю й вольнай, як нідзе.

А людзей я запраўды пазнала й зразумела шмат пазьней. Тады й яны побач з прыродай увайшлі ў маю творчасьць, і нат хіба, як пераможцы.

**П.:** Вы называеце Максіма Гарэцкага сваім „першым крытыкам і суровым настаўнікам". Што Вам запамяталася зь ягонага выгляду, настаўленьняў літаратурных і нацыянальных?

**А.:** Максім Гарэцкі быў крытыкам сваяасаблівым. Ён ніколі не казаў проста, калі яму што не спадабалася, адно колькімі спакойнымі словамі ці сказамі дапамагаў мне самой зразумець, у чым мая памылка. Бачыла ці спатыкала Максіма Гарэцкага або на лекцыі ў клясе, або прыпадкам у калідорах школы, бо быў заўсёды вельмі заняты, але было між намі нейкае вельмі няўлоўнае паразуменьне, і ня трэба было шмат словаў. Хваліў ён мяне рэдка. Адно, што яму падабалася, гэта мае вершы-баляды, якія ўвайшлі пазьней у зборнік „Пад сінім небам" у разьдзеле „Зачараваны кут" (што й ня дзіва ў аўтара „Патаёмнага").



**Натальля Арсеньнева**

**П.:** Які ўплыў меў на Вас Антон Луцкевіч?

**А.:** Антон Луцкевіч, які пераняў у Гарэцкага выкладаньне беларускае мовы ў нашай 8-й клясе, ня быў мне гэткім блізкім, як Максім Гарэцкі. Ды выкладаў ён без таго запалу, без тае любасьці да роднага слова, як Гарэцкі. Адно, што ён любіў і добра, да апошняга радка ведаў і высака цаніў, была творчая спадчына Максіма Багдановіча. Багдановіч, як паэт, што ня выйшаў непасярэдна зь вёскі, быў, відаць, шмат бліжэйшы Луцкевічу, чымся, скажам, Мацей Бурачок, ці нават і Якуб Колас. Але ў выкладах сваіх ён заўсёды быў вельмі дакладны, стрыманы й справядлівы. Ён заўсёды, быццам, некуды сьпяшаўся й ня было ў ягоных лекцыях таго агню, што ў лекцыях ягонага папярэдніка.

**П.:** Ці на Вашым творчым шляху былі ў Вас спакусы (якія йшлі звонку) пісаць у іншай мове (расейскай, польскай), і што Вас пакінула пры беларускай мове?

**А.:** Мо гэта крыху дзіўна, але гэткае спакусы ці націску на мяне з таго ці іншага боку ніколі ня было. Думаю, што мала хто з чужых, сярод якіх давялося мне жыць, наагул ведаў, што я пішу, да таго-ж пабеларуску. Беларускую мову я ніколі ня зьбіралася кідаць. Яна была й ёсьць маёй роднаю мовай, дык як-жа-ж я магла яе пакінуць?

**П.:** Хто, апрача Максіма Багдановіча, быў найбольш блізкі Вам зь беларускіх паэтаў? Якія дачыненьні былі ў Вас зь іншымі паэтамі Заходняе Беларусі? Ці Вы сачылі за іхнымі творамі? Як Вы разумелі сваё месца ў літаратурным жыцьці тае пары?

**А.:** Апрача Багдановіча, я любіла Зьмітрака Бядулю й некаторыя вершы Янкі Купалы. Ведама, я захаплялася й дзівілася моцы ягонага магутнага таленту, але бліжэй майму сэрцу былі гэткія ягоныя вершы, як „Песьня сонцу" ці „Маладая Беларусь". Што-ж да маіх найбліжэйшых сяброў, паэтаў Заходняе Беларусі, дык неяк навесну 1921 або 1922 году (баюся памыліцца) я сустрэлася ў Вільні з паэтам Уладзімерам Жылкам. Ён мне адразу вельмі спадабаўся, як чалавек. Я была тады якраз пад уражаньнем кагадзе надрукаванага ягонага верш у (не памятаю ўжо дзе):

Ў маім жыцьці яшчэ вясна
Мінула ў вечнасьць назаўсёды...

Я адразу адчула, што гэты Жылкаў верш куды лепш за мае тагачасныя й таму пазірала на яго з пашанай, хай Жылка й быў блізу маім аднагодкам. Згаданыя ўспадоба й пашана да Жылкавае творчасьці засталіся ў мяне назаўсёды й завяршыліся ўражаньнем ад прачытаньня (гадоў 20 пасьля) ягонага несьмяротнага „Тэстамэнту".

Больш, нажаль, я з Жылкам не сустракалася. Ён выехаў у Прагу, а тады — у Савецкі Саюз, а я выйшла замуж і пакінула Вільню на даўгія гады, хай і вярталася туды часам на кароткія наведзіны.

Што-ж да тагачасных паэтаў Заходняе Беларусі, дык Максіма Танка, зь якім я сустрэлася ўжо шмат пазьней, я таксама адразу прызнала, як лепшага за мяне тады паэта. Раньні Танк быў, бязумоўна, пад цімалым уплывам Сяргея Ясеніна, з творамі якога я толькі што тады пазнаёмілася. І Ясенін, і Танк, гэткія падобныя ў адным, а гэткія розныя ў іншым (Ясенін, прыкладам, ня быў змагаром), былі вельмі сугучныя мне (у глыбіні, калі можна так сказаць, а ня вонкава). Пад іхным, прызнаюся, уплывам я й разьвіталася канчальна з „нашаніўскаю парою" мае творчасьці ды ўвайшла, перш крыху нясьмела, у паэтычную сучаснасьць.

З творамі-ж гэткіх волатаў, як Уладзімер Дубоўка ці Язэп Пушча, я тады яшчэ не сустракалася.

Апрача Танка, давялося мне пазнаёміцца ў Вільні і зь іншымі лепшымі паэтамі Зходняе Беларусі — Машарам і Васільком. Ні Васілька, ні нат Машару ня можна было аднак раўнаваць ані да Танка, ані да Жылкі, ані, хіба, і да тагачаснае мяне.

**П.:** Вам давялося пражыць на Беларусі ня больш як 25 год, калі ня лічыць штагодніх кароткіх „наездаў". Здалёк ад Беларусі, што Вас найбольш вабіла да яе?

**А.:** Усё... А найбольш ейная нейкая свойскасьць, блізкасьць. У Заходняй Польшчы, дзе мне давялася пражыць большую частку нашых год выгнаньня, нат васількі, здавалася, цьвілі ня гэтак як у нас. Я пісала ў 1925 годзе:

Краскі любыя, памяткі іншых палос,
белых дзічкаў на межах,
сьцяжынак-шляхоў,
краскі, памяткі песьняў званкіх
жаўрукоў
пад паветкаю сініх нябёс...
Там, у родных палёх вы ня гэтак
цьвілі,
гэткі смутак ня ймгліўся у вашых
вачох,
гэтак хутка ваш стан ня хінуўся,
ня сох,
краскі роднай, далёкай зямлі!

**П.:** Які ўплыў зрабіла на Вашу творчасьць вайна?

**А.:** Я думаю, што найлепш і найдакладней можа адказаць на гэтае пытаньне мой верш „Сягоньня", якім якраз я й „прывітала" першыя ваенныя дні:

Мне кажуць, што пісаць заўсёды,
ўсюды можна.
Папера, алавік, натхненьне... верш
гатоў.
Паэт, абы прысеў, а верш змайструе,
зложыць,
З радкоў, як зь сена, ўмірг
патрапіць ськідаць стог.
Але пра што пісаць?
Пракокам быць па часе,
нізаць каралі рос, вянок асеньні
віць?
Пажарышчаў дзікіх мой верш і так
ня згасіць,
ня змые з душ людзкіх пурпуравай
крыві.
Дапраўды, што пісаць і заўтра,
і сягоньня?
Трупоў не ўваскрасіш санэтам аб
вясьне...
Сягоньня кожны верш
хаўтурным звонам звоніць,
найлепшай рыфмай рот галодны не
заткнеш...
Пісаць аб салаўёх, аб сьнежнай
белі вішняў?
Замоўклі салаўі пад медны рык
гармат,
а белы вішняў сьнег таксама
сьмешна лішні, —
сталёвы, гойстры штых напіша
вершаў шмат...
Няхай-жа сьвет гарыць, хай
плавіцца у горне
грымотных новых дзён, куецца, як
нарог.
Нарэшце мо й паэт харэі, ямбы
згорне,
І зноў пачне пісаць, гусьлярыць...
Даў-бы Бог!

**П.:** Якое было Вашае стаўленьне да нямецкае акупацыі Беларусі, да нямецкіх акупацыйных уладаў?

**А.:** Кажная акупацыя — гэта блізу заўсёды гвалт, няволя. Колькі-ж іх, гэтых акупацыяў перажыла ўжо працягам гісторыі нашая Бацькаўшчына! Гэтак і чародная, нямецкая акупацыя Беларусі 1941-44 гадоў каштавала нашаму народу нязьлічаныя ахвяры, пакуты й крыўды.

Мне здаецца, аднак, што савецкая партызанка ані ня лепш ставілася да беларускага жыхарства, чымся нямецкія ўлады. Нішчылі нас і з аднаго боку і з другога. Ведама-ж — вайна.

Я, што бачыла толькі частку тых крыўдаў, пісала тымі днямі:

Так, бо пісаць і тужыць
сягоньня адно — сынанімы.
Кажнае слова баліць,
колець іржавым цьвіком,
з кажным зьнізаным радком
зноў устаюць успаміны
ночных пажараў, трупоў,
ледзьве прыкрытых пяском.
Хочацца бегчы, шукаць
нейкія новыя словы,
словы, якія з жыцьця
ветрам гарачым зьмялі-б
жоўтыя рукі крыжоў,
шэрыя твары палонных,
целы, што гойдае ноч
на шыбяніцах гальля...

Або:

Не, не да верасоў лільёвых ці
сутункаў
сягоньня нам. Ня іх наш край
на пальцах рук рахуе,
раз-па-раз мыляючы рахункі:
Яму баляць крыжы, што цягнуцца
ўгару.
Іх шмат, іх штораз больш...
Загуслая жывіца
залоціцца на іх, маўляў рудая кроў,
і думкаю ля іх з нас кожны
сутуніцца,
хоць і на момант мо і ня прыпыніць
крок...

Адно, чаго ніколі й ніяк ня можна даравацъ тагачасным нямецкім акупантам нашага краю—гэта бязьлітаснага, нялюдзкага нішчэньня цывільнага жыхарства, у тым ліку й спрадвечнага тут жыхарства жыдоўскага. Ужо сорак год стаіць у мяне ўваччу, прыпадкам пабачаны — бо Немцы з гэтым не хаваліся — адзін крывавы фрагмэнт, і думаю, што будзе стаяць аж пакуль не памру. Як умела, я апісала яго ў вершы „Акцыя", вынятак зь якога й цытую:

Як прыгаршчы лісьця, іх кінулі на
пляц,
і латы жоўтыя пайшлі лістамі у
скокі...
Выў вецер...
Але й ім казалі засьпяваць,
і за часіну ўсе і пляскалі й сьпявалі:
прысеўшы на бруку, брахаў у самы
твар
ім кулямёт загады сталяй.
Каб дагадзіць яму —
чырвоным языком
пачаў лізаць агонь бажніцу...
аж у неба
шугнулі з дымам Торы, талесы
ускок, рыўком,
маўляў скакаць пайшлі у тахт із
рэбэ.
А рэбэ, што-ж, сьпяваў...
рыпелі, як жарства
пад пятамі скакух, і ўсё...
і толькі Ёсель,
хоць маці тузала яго: „Сьпявай", —
біў пустку пясткамі, заходзіўся і
тросься.
Біў пясткамі й тады, калі апёк агнём
бізун дзіцячы твар,
калі асела маці
на брук снапом аўсяным,
калі ён
папоўз, маўляў шчанё, ў прыпол
яе схавацца,
калі пайшлі зьдзіраць зь дзявочых
шый і рук
каралі гордыя і ўпартыя пярсьцёнкі,
калі, як з крапяжа, паплыў з
крывёй на брук
чыйсь енк прарэзьлівы і тонкі,
калі усьцешны шум зьмяшаўся у
вушшу
зь пякучай роспачай,
апаў на сэрцы жудзяй...

**П.:** Як Вы разумелі наагул ролю паэта ў жыцьці, паколькі Вы звярачаліся ці раз да гэтае тэмы ў вершах „Паэту", „Хто ён, паэт?", „Імкні, паэта", „Каб паэты маглі", „Паэтам" ды іншых?

**А.:** На гэтае пытаньне адказаць ня гэтак лёгка. Паэты маюць дар паэтызаваць праявы жыцьця, жыцьцёвыя здарэньні, благія ці добрыя, усё тое, што даводзіцца людзям бачыць і перажываць. І гэтая паэтызацыя перажыванага робіць яго больш зразумелым, наагул лягчэйшым да ўспрыняцьця людзьмі. А парою, асабліва ў часіны натхненьня, паэты патрапяць нат уплываць сваймі вершамі на людзкія паводзіны, кіраваць людзкою грамадою, як рабілі гэта старадаўныя прарокі, адным словам, як сказана ў маім вершы „Паэт":

вучыць прысталых дыхаць шырэй,
шугаць,
за родны край гарэць.

**П.:** Чым можна характарызаваць Вашую паэзію пэрыяду эміграцыі? Ці Вы разрозьніваеце ў гэтай фазе пэрыяд „нямецкі", калі жылося ў пераходных лягерных умовах, і пэрыяд „амэрыканскі" — часы сталага асяленьня?

**А.:** У вершах пэрыяду „нямецкага", як Вы яго называеце, ды раньняга „амэрыканскага" пераважае ў мяне туга па Бацькаўшчыне, параўнаньні яе да чужыны, што й ня дзіва, бо бальшыня нас, апынуўшыся за межамі Беларусі, яшчэ доўга жылі дый жывём родным краем. І толькі пасьлей, пакрысе, Бацькаўшчына, як жывая рэчаіснасьць, пачала ў паэтавым адчуваньні адплываць як быццам у нейкую казачную далячынь. Як казка жыве яно ў сэрцах і паэтаў, і не паэтаў да сяньня: „Беларусь, Беларусь залатая", ці „Беларусь, Беларусь зялёная, палымены, балючы сон!".

**П.:** Які ў Вас кантакт з паэзіяй сучаснае Беларусі?

**А.:** Сягоньня блізу ніякі. Калі я жыла ў Нью Ёрку, дык сыстэматычна чытала й „Полымя" й іншыя менскія выданьні. Калі-ж выехала „ў правінцыю", амаль усё гэта, нажаль, абарвалася. Але, мяркуючы з таго, што ўдаецца мне ўсёж час ад часу пачытаць, я вельмі высака цаню паэзію сучаснае Беларусі, нязгасную любасьць да Бацькаўшчыны, якая ў ёй жыве.

**П.:** У Вашай творчасьці ваеннага й паваеннага часу Вы ўспрыймаецеся чытачом, як паэт мужнага духу, пясьняр жыцьцёвага актывізму. Ці лёгка давалася Вам гэтая бадзёрасьць? Якія цяжкасьці, сумляваньні, перашкоды даводзілася Вам сустракаць на жыцьцёвым шляху?

**А.:** Тое, што Вы называеце „бадзёрасьцяй", гэта проста адна із сваеасаблівых рысаў майго характару: хай па прыродзе сваёй я вельмі нясьмелая, штось прымушае мяне адразу ставіцца наперакор каму-б ні было ў выпадку гвалту, крыўды, несправядлівасьці. Наагул я магу шмат што сьцярпець, але ня крыўду ці несправядлівасьць, чаму — сама я ня ведаю. А гвалтаў і несправядлівасьці ў ваенных гадох была навокала — процьма.

Вось мой, прыхаваны звычайна, бунтарскі дух і ўспыхваў кажны раз, калі я сустракалася твар у твар з крыўдай і гвалтам. Я пісала:

Столькі едкае бязглуздзіцы
наўкола,

(Заканчэньне на б. 7-й)

## ПАДЗЯКА

Ад шчырага сэрца дзякую тым, хто прывітаў мяне з 80-мі ўгодкамі майго жыцьця, а гэта: сябром і знаёмым зь Нью Ёрку й ваколіцаў, удзельнікам „Дажынак" у Гайленд Парку, сп-ству В. Казлоўскім і знаёмым з Рочэстару, сябром з Канады, „усім сябром" з Чыкага й сп.сп. Нікану, Скабею й Калодку з далёкае Аўстраліі.

Тым-жа, што разам з прывітаньнем прыслалі мне й прыгожыя краскі, — яшчэ адно „дзякуй" на дадатак. Шчыра ўдзячная

**Натальля Арсеньнева**



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЕМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР*
*АЙЦЕЦ ЯКУБ*
*АЗАРКА МАРЫЯ, ЯНКА й ІРЭНА*
*АЗАРКА НОНА й ЮРКА*
*АКУЛА НАДЗЕЯ, КАСТУСЬ, ЮРКА й АЛЬГЕРД*
*АНДРУСЫШЫН ЮЛЯ, ПАВАЛ, ЮРКА і ДАНЧЫК*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ зь СЯМ'ЁЙ*
*БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА*
*БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА й МІТРАФАН і ДЗЕЦІ ЖОРЖ, ПЕТРА й ЛАРЫСА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ГАВЕНЧЫК ЯНКА зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ*
*ГРЫЦАЙ ЛІЗА й ЯКАЎ і ДЗЕЦІ*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА*
*ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА й ВІТАЛЬ, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ зь СЕМ'ЯМІ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЕТРА й АЛЬГЕРД*
*Інж. КАЛОША КАСТАНТЫН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ МАРЫЛКА й СЬВЯТАСЛАЎ*
*КАРАНЕЎСКАЯ СТЭФА, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАЧАН ВОЛЬГА й ВЕРА*
*КІПЕЛЬ МАРЫЯ*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*Д-р КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КОРЧЫК ЛЮБА і ЮРКА*
*КУНЦЭВІЧ МІКОЛА*
*ЛАШУК АЛЯКСАНДАР*
*ЛІТВІНЕНКА ЕЎФРАСІНЬНЯ й ЯНКА*
*ЛУЖЫНСКІ НАДЗЕЯ, МІХАСЬ, ГЭЛЕНА, НЭЛЯ і ЧАСЛАЎ*
*МАЛЕЦКАЯ АЛІНА*
*МАРКЕВІЧ МАРЫЯ, АНТОН і ДЗЕЦІ*
*МІСЮЛЬ НАДЗЯ й ЯНКА ЗЬ ДЗЕЦЬМІ*
*МЯРЛЯК ГАННА, КАСТУСЬ і ВІНЦУСЬ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН ЮРКА*
*НЕПЕЙН НАДЗЯ й АЛЯКСАНДАР*
*НІКАН ЛЕНА й МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*НОРЫК КІНУСЯ, ЛЁНЯ й ДЗЕЦІ*
*ПАШКЕВІЧ ВАЛЯНТЫНА й МІХАЛ зь СЯМ'ЁЮ*
*Д-р РАМУК, ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ*
*СКАБЕЙ МІКАЛАЙ*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ*
*СТАГАНОВІЧ КРЫСТЫНА й ЮРКА*
*СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА й РАІСА*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СЫЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ АЛЯКСАНДРА й ЯНКА*



*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

*ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА*
*АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ*
*і*
*РЭДКАЛЕГІЯ „БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ"*
*вітаюць сваіх сябровак і сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*



КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ
И
НОВЫМ 1984 ГОДАМ!

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*



*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1984 ГОДУ**
*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*
*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*



**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
**И**
**НОВЫМ 1984 ГОДАМ!**

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**вітае з КАЛЯДАМІ ўсіх сваіх Сяброў, Прыхільнікаў і ўсіх Працаўнікоў на беларускай ніве**
**ды жадае ім**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1984 ГОДУ!**

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**У верасьні, кастрычніку й лістападзе 1983 г.**

**Падпіска й ахвяры**

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. і Л. Беленісы | $ 150.00 |
| 2. | Б. Кіт | 100.00 |
| 3. | Э. Жызьнеўская | 100.00 |
| 4. | М. Рагуля | 100.00 |
| 5. | В. і В. Рамукі | 50.00 |
| 6. | М. і В. М. | 25.00 |
| 7. | В. Ільчук | 25.00 |
| 8. | Г. Сянькевіч | 25.00 |
| 9. | А. Протас | 25.00 |
| 10. | В. Шчэцька | 22.00 |
| 11. | Л .і Э. Норыкі | 20.00 |
| 12. | А. Хрэноўскі (Канада) | 20.00 |
| 13. | У. Грэбень | 20.00 |
| 14. | Н. і В. Чупраковы | 20.00 |
| 15. | Я. і А. Чарнэцкія | 20.00 |
| 16. | К. Міраковіч (за клішу) | 20.00 |
| 17. | В. Кажан | 15.00 |
| 18. | Я. П. Лёлэр (Швайцарыя) | 12.00 |
| 19. | В. Косараў (за абвестку) | 3.00 |
| 20 | Н. Арсеньнева | 20.00 |
| 21. | Бел. Цэнтр. К-т у Вікторыі (Аўстралія) заміж кветак на магілу с. п. А. Качана | 20.00 |
| 22. | А. Ражанец (Ангельшчына) | анг. ф. 10.00 |

**Усяго разам: 712.00**
**анг. ф. 10.00**

**Атрымана праз сп. Б. Даніловіча:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | В. Русак | $ 50.00 |
| 2. | БАЗА ў Нью Джэрзі | 25.00 |
| 3. | К. Ўортс | 24.00 |
| 4. | А. С. | 20.00 |
| 5. | А. Койка | 20.00 |
| 6. | І. Шчорс | 20.00 |
| 7. | П. Кулеш | 20.00 |
| 8. | А. Костэр | 15.00 |
| 9. | В. Дубяга | 15.00 |
| 10. | а. Якуб | 15.00 |
| 11. | П. Талмачэвец | 15.00 |
| 12. | Панаховіч | 13.00 |
| 13. | А. Мінчук | 12.00 |
| 14. | М. Бахар | 12.00 |
| 15. | Я. Лук'янчык | 12.00 |
| 16. | Я. Валодзька | 12.00 |
| 17. | І. Люты | 12.00 |
| 18. | А. Занковіч | 12.00 |
| 19. | С. Кірылік | 12.00 |
| 20. | В. Пеляса | 12.00 |
| 21. | К. Барысавец | 12.00 |
| 22. | В. Ш. | 12.00 |
| 23. | М. Касьцюк | 12.00 |
| 24. | М. Ігнатовіч | 12.00 |
| 25. | А. Губэрт | 12.00 |
| 26. | А. Балкоўскі | 10.00 |
| 27. | Б. Даніловіч | 10.00 |
| 28. | В. Сьліўка | 10.00 |
| 29. | а. Аляксандар | 10.00 |
| 30. | А. Сільвановіч | 10.00 |
| 31. | А. Непейн | 10.00 |
| 32. | А. Субота | 10.00 |
| 33. | П. Кажура | 10.00 |
| 34. | Я. Літвіненка | 10.00 |
| 35. | Я. Азарка | 10.00 |
| 36. | А. Стагановіч | 10.00 |
| 37. | Ю. Стагановіч | 10.00 |
| 38. | Я. Місюль | 10.00 |
| 39. | Т. Супрун | 10.00 |
| 40. | Ю. Азарка | 10.00 |

**Усяго: $558.00**

**За калядныя віншаваньні прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Н. і А. Жызьнеўскія | $ 20.00 |
| 2. | З. і Р. Станкевічы | 20.00 |
| 3. | А. Лашук | 20.00 |
| 4. | В. і Л. Кажаны | 20.00 |
| 5. | М. і В. Пашкевічы | 15.00 |
| 6. | Л. і Э. Норыкі | 10.00 |
| 7. | Я. і А. Чарнэцкія | 10.00 |
| 8. | Я. Каханоўская | 10.00 |
| 9. | Ю. і П. Андрусышыны | 10.00 |
| 10. | Ч. і Ю. Найдзюкі | 10.00 |
| 11. | К. Акула | 20.00 |
| 12. | Н. Арсеньнева | 10.00 |

**Усяго: $ 175.00**

**Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўнікам газэты шчыры дзякуй.**

**Рэдакцыя „Беларуса"**

## АХВЯРАДАЎЦЫ НА ДАПАМОГУ СУРОДЗІЧАМ У ПОЛЬШЧЫ

За пэрыяд ад чырвеня па лістапад 1983 г. Беларусам у Польскую Народную Рэспубліку было выслана 23 пачкі й адзін грашовы пераказ. Зрабіць гэта ўдалося дзякуючы ахвярам наступных асобаў і арганізацыяў, у дадатак да раней пералічаных:

| | |
|---|---|
| В. Станкевіч | $ 60.00 |
| Я. Юхнавец | 10.00 |
| Фундацыя ім. П. Крэчэўскага | 100.00 |
| Л. Корчык | 20.00 |
| П. Орса | 20.00 |
| Л. Стагановіч | 50.00 |
| Др. П. Гайдзель | 50.00 |
| В. Кажан | 91.00 |
| К. Верабей | 25.00 |
| М. Рагуля | 50.00 |
| Ул. Машанскі | 20.00 |
| Др. Ул. Набагез | лекі |
| Сям'я Норыкаў | вопратка |
| Сям'я Корчыкаў | вопратка |
| Юрка Андрусышын | вопратка |
| В. Станкевіч | рэчы да гігіены |
| С. Жамойда | зубная паста |
| І. Гуткоўскі (памылкова было пададзена 10.00) | 20.00 |

Усім ахвярадаўцам дзякуем за шчодрасьць. Просьбы аб дапамозе прыходзяць з Польшчы й надалей. Прыходзяць таксама цёплыя словы падзякі ад тых, каму дапамога была высланая. Калі ласка, не забывайцеся пра сваіх суродзічаў у бядзе. Вясёлых вам Сьвятаў!

Наш адрыс: Ms. A. O. Romano, 172 Mill Spring Rd., Manhasset, N. Y. 11030

**Юля Андрусышына**
**Алла Рамана**

## ВЫДАНЬНЕ ЗБОРУ ТВОРАЎ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

**Падпіска й ахвяры**

Атрымана ў храналягічным парадку да 15 лістапада 1983 г.

158. Бакуновіч У. (другі раз) $25.00

**Падпіска й ахвяры сабраныя сп. Антонам Маркевічам:**

| | | |
|---|---|---|
| 159. | Маркевіч А. | $ 25.00 |
| 160. | Монід А. | 20.00 |
| 161. | Рагуля Б. (другі раз) | 20.00 |
| 162. | Лішчонак Б. | 10.00 |
| 163. | Архіепіскап Мікалай | 20.00 |
| 164. | Кірка Б. | 2.00 |
| 165. | Ганько М. | 5.00 |
| 166. | Баран Я. | 2.00 |
| 167. | Харэвіч В. | 1.00 |
| 168. | Раманчук А. | 10.00 |
| 169. | Цесьлярэвіч Я. | 25.00 |
| 170. | Каменяў В. | 20.00 |
| 171. | Паўкэ Б. | 10.00 |

**Разам: $ 195.00**

**З папярэдняй падпіскай і ахвярамі агульная сума на 15 лістапада 1983 г. $ 5003.00**

Падпіска й ахвяры прыймаюцца далей.
Byelorussian Institute of Arts and Sciences, Inc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N. J. 07070

## ФОНД АБАРОНЫ ВЯЗЬНЯЎ СУМЛЕНЬНЯ Ў СССР

Ад Беларусаў Аўстраліі (праз сп. М. Скабея) **$ 205.00**

Шчырая падзяка аўстралійскім Беларусам і арганізацыям за падтрыманьне гэтае справы.

**Управа Фонду Абароны**

## КАЛІ НЯМА ВАШАГА ПРОЗЬВІШЧА

**Вызсьненьне**

Здараецца, што дзеля тае ці іншае прычыны ў сьпіс ахвярадаўцаў ці падпішчыкаў газэты закрадаюцца памылкі: прапушчанае прозьвішча, назоў арганізацыі або пададзеная памылковая сума. Памылкі гэткія, нажаль, рэч няўхільная ў тых умовах, у якіх робіцца газэта. У гэткіх выпадках просім напісаць нам пра памылку, і мы ахвотна зьмесьцім папраўку.

**Рэдакцыя „Беларуса"**